ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXI. № 174 Нью Ёрк October — Кастрычнік 1971 New York Vol. XXI. №174

СЬВЯТОЙ ☦ ПАМЯЦІ

ЯГО ВЫСАКАПРААСЬВЯШЧЭНСТВА АРХІЯПІСКАП БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ І ЕЙНЫ КІРАЎНІК

**УЛАДЫКА СЯРГЕЙ**

адыйшоў на вечны супачынак у сыботу 2 кастрычніка ў Адэляйдзе (Аўстралія) на 82-ім годзе жыцьця й пахаваны 13 кастрычніка 1971 на магільніку ў Адэляйдзе, пра што ў глыбокім суме паведамляе

ЯПАРХІЯЛЬНАЯ РАДА БАПЦ

# ХРУШЧОЎ І БЕЛАРУСЬ

## I.

## ХРУШЧОЎ — БЕЛАРУСЬ — ГІСТОРЫЯ

Хрушчоў, кажуць, меў дзьве сьмерці: першую ў 1964 годзе, палітычную, і другую сёлета 11-га верасьня. Калі пасьля першае сьмерці ён адыйшоў быў у царства нябыцьця (у савецкім друку навет ягонага ймя не згадвалі), дык цяпер ён перайшоў у царства гісторыі. Якраз гэтае пытаньне гістарычнае ацэны Хрушчова закрануў сын нябожчыка Сяргей, выступіўшы з кароткаю прамовай над сьвежаю магілаю свайго бацькі ў часе пахаваньня. Сяргей Хрушчоў сказаў: „Я ня буду гаварыць пра яго, як пра вялікага дзяржаўнага мужа. Апошнімі днямі на гэтую тэму было сказана шмат чаго — з рэдкімі выняткамі — газэтамі цэлага сьвету, усімі радыёстанцыямі. Ня мне належыцца ацэньваць дасягненьні Мікіты Сяргеевіча, майго бацькі. Я на гэта ня маю права. Гэта будзе зроблена, і ўжо робіцца, ГІСТОРЫЯЙ".

І калі ў савецкім друку на тэму гістарычнае ролі Мікіты Хрушчова ў сувязі зь ягонай сьмерцяй ня казалася нічога, дык паза межамі СССР — гэта адно з найвялікшых цяпер пытаньняў. У замежным друку Хрушчова блізу аднагодна паставілі ў шэраг выдатных постацяў ня толькі савецкае гісторыі — гэткіх, як Ленін, Троцкі, Сталін — але й гэткіх, у пэўным сэньсе, як Папа Ян XXIII. „Хрушчоў, — пісала газэта „Нью-Ёрк Таймс", быў гігантам, як у сваіх памылках, гэтак і ў сваіх дасягненьнях". Лёнданская газэта „Обзэрвэр" адзін із сваіх артыкулаў пра гістарычнае значэньне Хрушчова зьмясьціла пад загалоўкам „Селянін, што зьмяніў сьвет".

За пахаваньнем гэтага „селяніна" зьмянілася шмат чаго й на Беларусі. І калі некаторыя зьмены вярнуліся да старога — на беларускай падзольнай глебе гадуюць ізноў бульбу, а не кукурузу—дык некаторыя засталіся. Засталася перш-наперш ды ўсьцяж пашыраецца русыфікацыя краю, спрычыненая хрушчоўскай рэформай школьніцтва, праведзенай у сьнежні 1958 году. Паводля рэформы права пастанаўляць, у якой мове павінны навучацца дзеці, было перададзенае бацькам. Закон, што вучні й інтэлігенцыя ў дадзенай рэспубліцы павінны добра ведаць нацыянальную мову рэспублікі, быў скасаваны. На паасобныя сем'і-ж пачаўся рабіцца ціск па партыйнай, прафсаюзнай, камсамольскай ды сотні іншых лініяў, каб дзеці пасылалі ў расейскамоўныя школы. Да гэтага ціску дайшлі звычайныя кар'ерыстычныя й практычныя меркаваньні: калі хочаш, каб дзіцё пайшло ў вышэйшую навуку — „у людзі", — пасылай у расейскую школу. Гэтак на Беларусі пайшла новая парода людзей, аналягічная да колішніх „паўпанкаў" ці „палупанкаў", якіх цяпер завуць „маркізамі", графкамі" — тых, што из'ясняюцца на высшем наречии.

Беларуская мова была выэлімінаваная хрушчоўскай рэформай з праграмы экзаменаў пры паступленьні на вышэйшыя навучальныя ўстановы ды страціла гэткім парадкам важнасьць у працэсе сярэдняга навучаньня. Сацыяльным вынікам гэтае рэформы было тое, што дзецям беларускага сялянства йшчэ глыбей перарэзалася дарога да вышэйшае асьветы, а ўпрывілеяваўся гарадзкі зрусыфікаваны й расейскі элемэнт.

Зь Беларусяй зьвязаны Хрушчоў і некаторымі ня зусім высьветленымі эпізодамі. Першы зь іх — гэта замах на ягонае жыцьцё ў часе ягонага наведаньня Менску дзесьці ў другой палавіне 1950-ых гадоў, пра што пісалася ў заходнім друку.

Другі вельмі цікавы эпізод меў месца дзесьці ў 1959 годзе, калі на партыйных вярхох абмяркоўвалася пытаньне ліквідацыі прысялібных дзялянак у СССР. На Ўкраіне некаторыя партыйныя рупліўцы, забягаючы наперад канчальнай пастанове ў гэтай справе, ліквідавалі ўсе прыватныя гароды. Пачалася прагаладзь. Кірыла-ж Мазураў, першы сакратар ЦК КПБ, адмовіўся (паводля легенды) ліквідаваць прысялібныя дзялянкі на Беларусі.

У выніку гэтага, кажуць, Мазураў і здабыў сабе славу, свайго роду, народнага героя ўваччу беларускіх сялянаў.

Пэрыяд улады Хрушчова, адзначаюць замежныя камэнтатары, увайшоў у гісторыю савецкага грамадзтва і ўсяго чалавецтва шмат якімі драматычнымі, а часамі трагічнымі падзеямі: скасаваньнем культу Сталіна, вэнгерскім паўстаньнем, першым штучным спадарожнікам Зямлі, спробай паставіць савецкія ракеты на Кубе, бэрлінскаю сьцяной, дэцэнтралізацыяй савецкае эканомікі, зьнятым з нагі чаравікам у Аб'еднаных Нацыях, і г. д., і г. д. Найбольшую гістарычную заслугу Хрушчова аднак бачаць у тым, што ён парваў з практыкай сталінскага тэрору, рэгабілітаваў тысячы зьняволеных і бязьвінна расстраляных, адсьвяжыў крыху палітычны клімат Савецкага Саюзу, даў магчымасьць большых кантактаў з вонкавым сьветам. Роля Хрушчова ў гісторыі тым большая, на думку замежных камэнтатараў, што, як паказала практыка апошніх сямёх пахрушчоўскіх гадоў, Брэжнеў з Касыгінам у нутраным стане Савецкага Саюзу нічога не палепшылі, а ў дзялянцы інтэлектуальнае свабоды давялі навет да горшага, чымся было за Хрушчова.

Словам, гісторыкам, пішучы пра пэрыяд Хрушчова, ёсьць што аналізаваць, супастаўляць, параўноўваць. Апошняе слова за гісторыкамі. Савецкая гісторыя, праўда, навука партыйная, і ў вабставінах, калі пра Хрушчова маўчыць партыйны друк, будзе маўчаць барждджэй за ўсё й партыйная гістарыяграфія. Той факт, што „Праўда" спозьнена й лаканічна паведаміла пра сьмерць Хрушчова; што пахаваньне яго адбылося цішком пад аховаю міліцыі, безь ніякіх рэпартажаў у савецкім друку, кажа адно пра тое, што й савецкім гісторыкам ня шмат дадзена займацца аб'ектыўнаю ацэнаю гістарычнае ролі Хрушчова.

На шчасьце гісторыя, як навука, складаецца не адно зь гісторыкаў, але й з дакумэнтаў. А дакумэнтаў-жа на змусіш маўчаць: напісана пяром — ня высечаш тапаром.

Да гэткіх дакумэнтаў належыць, прыкладам, перадавы артыкул — пад загалоўкам „Ленінскім курсам" — надрукаваны ў чацьвертым нумары часапісу „Камуніст Беларусі" за 1962 год. У артыкуле, пасьля згадкі, што красавік — гэта месяц нарадзінаў Леніна, чытаем: „Як-бы радаваўся наш правадыр і настаўнік вялікі Ленін, калі-б ён мог бачыць, зь якім умельствам і мудрасьцю партыя вядзе справу, мог бачыць той курс, які ўзяў Цэнтральны Камітэт **на чалаве зь верным ленінцам** Мікітай Сяргеевічам Хрушчовам пасьля ХХ-га зьезду КПСС".

Між іншых думак, што паўстаюць, прачытаўшы гэткае, вынікае пытаньне ацэны постацяў мінуўшчыны на аснове савецкіх дакумэнтаў: калі гэтым дакумэнтам трэба даваць веры — тады, калі яны публікуюцца, ці тады, калі яны паляжалі гадоў дзесяць у архівах?

Быў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў „верным ленінцам", як сказана ў перадавым артыкуле „Камуніста Беларусі" ў 1962 годзе, ці быў нічым, як выглядае цяпер з таго-ж „Камуніста Беларусі" ды іншых партыйных органаў? Калі трэба даваць веры словам савецкіх дзяржаўных і партыйных дзеячоў, як яны ацэньваюць рэчаіснасьць: тады, як яны выказваюцца, ці тады, як іхныя словы сталіся гістарычным дакумэнтам дзесяцігадовае даўнасьці? Бо вось што казаў пра Хрушчова ў лістападзе 1961 году, тады йшчэ першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, Кірыла Мазураў у дакладзе на вялікім сходзе партыйнага актыву гораду Менску й Менскае вобласьці, („Камуніст Беларусі", сьнежань 1961 г.): „Дакладчык падкрэсьліў, што вялізарныя посьпехі ва ўсіх галінах жыцьця дасягнутыя дзякуючы кіпучай палітычнай і арганізатарскай рабоце партыі, яе Цэнтральнага Камітэту на чале **зь верным ленінцам** таварышам Хрушчовым. Трыумф ленінскага рэвалюцыйнага стылю — вынік няўхільнага й пасьлядоўнага правядзеньня Цэнтральным Камітэтам палітычнага курсу, выпрацаванага ХХ зьездам КПСС". Гэтак казаў Кірыла Мазураў у лістападзе 1961 году. Пытаньне: Якая вартасьць гэтае ацэны сёньня, дзесяць гадоў пасьля? Даваць веры Кірылу Мазураву, ці не даваць? Пытаньне ізноў: якая вартасьць за дзесяць гадоў будзе таго, што сёньня піша партыйны друк? Даваць веры яму? Ці не даваць?

Усё сучаснае няўхільна робіцца мінулым. Усе артыкулы, перадавіцы, паведамленьні ў друку робяцца гістарычнымі дакумэнтамі, гістарычным матэр'ялам. На прыкладзе гэткіх дакумэнтаў і матэр'ялаў — на прыкладзе таго, што партыйны друк казаў пра Хрушчова дзесяць гадоў таму, што казаў пасьля, і як нічога не сказаў цяпер — мы бачым, што яму ніколі ня можна даваць веры. Значыцца, гэтак званая „партыйнасьць" гістарычнае навукі — і праўдзівасьць гістарычнае навукі — дзьве зусім розныя рэчы: яны ўзаемна сябе выключаюць.

**Я. Запруднік**

## "АПОШНЯЕ СЛОВА" СІМАСА КУДЗІРКІ

У травені сёлета ў Вільні над літоўскім маракам Сімасам Кідзіркам, што прабаваў быў уцячы з савецкага карабля ў Амэрыку да быў выдадзены назад Саветам, адбываўся суд. Паводля самвыдавецкіх крыніцаў, што пападаюць на Захад з СССР, 20 травеня Кудзірку было дадзенае апошняе слова. Вось яно: „Я ня маю нічога дадаць да таго, што ўжо сказаў, ёсьць толькі адно пажаданьне, дакладней просьба, як да Вярхоўнага Суду, гэтак і да ўраду Савецкага Саюзу: прашу даць маёй бацькаўшчыне Ліцьве незалежнасьць".

**Старшыня:** „Як вы ўяўляеце сабе незалежнасьць Літвы?"

**Кудзірка:** „Незалежная Літва, на маю думку, гэта сувэрэнная дзяржава, а не акупаваная чужой арміяй. Гэтая дзяржава мае нацыянальную адміністрацыю, сваё права, свабодную дэмакратычную сыстэму выбараў. Гэтае дзяржавы законы іншых краёў не забавязваюць, як забавязваюць сяньня тут законы Расеі. Незалежнай Ліцьве ня будзе накідацца расейская мова, як яна накідаецца сяньня. Я хацеў-бы, каб гэткі працэс, як мой, быў у Ліцьве апошні".

## II.

## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ЗА ХРУШЧОВАМ

У сваёй супярэчлівай палітыцы й практычнай дзейнасьці, Мікіта Хрушчоў, як галава савецкае дзяржавы й Камуністычнае партыі, з аднаго боку, зрабіў шмат зла, а з другога — правёў і некаторыя мерапрыёмствы, што ў сваім выніку сталіся вялікім дабрадзействам для народаў Савецкага Саюзу. І гэта ў вабставінах, калі вынікаў гэткіх сам Хрушчоў не жадаў і іх не прадбачыў. За найбольшую гэткую заслугу Хрушчова агульна ўважаецца ягонае асуджэньне Сталіна й ягоных злачынстваў. Як ведама, рабіў гэта Хрушчоў ня ў гуманных мэтах, каб устанавіць справядлівасьць і людзкія нормы ў грамадзкім жыцьці, а каб адгарадзіць сябе ад сталінскіх злачынстваў, судзельнікам якіх быў і ён сам.

Але незалежна ад таго, якімі матывамі кіраваўся Хрушчоў, сам факт асуджэньня Сталіна меў вялікае гістарычнае значэньне эпахіяльнага маштабу. Як ведама, у сваёй прамове на закрытым пасяджэньні ХХ партыйнага зьезду ў 1956 годзе Хрушчоў зьвінавачваў Сталіна адно часткова — галоўна за ягонае вынішчэньне партыйцаў, зусім прамоўчваючы міліёны бязьвінных ахвяраў сталінскага тэрору сярод звычайных савецкіх людзей. На ХХІІ партыйным зьезьдзе ў 1961 годзе асуджэньне Сталіна, ужо адкрытае й афіцыйнае, было пашыранае й на іншыя ягоныя злачынствы. Але й цяпер уся галоўная ўвага засяроджвалася вакол асобы самога Сталіна.

Тымчасам асуджэньне Сталіна з трыбуны партыйнага зьезду ўскалыхнула ўсё савецкае грамадзтва й вяклікала агульнанародны рэзананс. Зьява гэтая, паўне-ж, супраць жаданьня самога Хрушчова й ягоных супрацоўнікаў, захістала асновамі ўкананізаванага пры Сталіну партыйнага дагматызму і ўнесла сьвежы подых новае атмасфэры ў грамадзкае жыцьцё. Гэта дало пачатак агульнай крытыцы й асуджэньню ўсяго зла сталінскага пэрыяду ды натхніла думаючае грамадзтва на шуканьне новых шляхоў грамадзкіх дачыненьняў, абапёртых на праўдзе, справядлівасьці й пашанаваньні закону. Пачаўся шырака разгалінаваны рух, названы дэсталінізацыяй. Рух гэты зазначыўся ў кажнай галіне грамадзкага й духовага жыцьця, у тым ліку і ў мастацкай літаратуры ўсіх савецкіх народаў.

У беларускай літаратуры першымі сымптомамі зьмены на лепшае, што зазначыліся яшчэ перад ХХ партыйным зьездам ды прынялі шырокі характар пасьля зьезду, сталіся рэгабілітацыі пісьменьнікаў і культурных дзеячоў, „зьліквідаваных" ў пагромных 30-ых гадох сталінскага тэрору. На працягу другой палавіны 50-ых і першае палавіны 60-ых гадоў было рэгабілітавана колькі дзесяткоў беларускіх пісьменьнікаў, а тыя зь іх, што засталіся жывымі, маглі вярнуцца з высылкі й аднавіць сваю літаратурную дзейнасьць. Не зважаючы на тое, што ня ўсе беларускія пісьменьнікі рэгабілітаваныя й да сяньня ды ня ўсе творы пісьменьнікаў рэгабілітаваных вернутыя беларускай літаратуры, навет і гэткая няпоўная рэгабілітацыя мела вялікае значаньне ня толькі гістарычна-літаратурнае, а й псыхалягічнае. Яна зрыхтавала грунт для пераросту рэгабілітацыі пісьменьніцкіх імёнаў і іхных твораў у рэгабілітацыю зьведзенае раней да ўтылітарнае службовае ролі самой існасьці літаратуры, як мастацтва.

Цяглы й сыстэматычны працэс вызваленьня літаратуры зь ейнае службовае ролі для партыі, ейны зварот да паўнакроўнага й шырокага адлюстраваньня жыцьця, да разгляданьня літаратурнага мастацтва перш-наперш як мастацтва зь ягонымі апрычонымі й незалежнымі эстэтычнымі функцыямі зазначыўся на Беларусі адно на парозе 60-ых гадоў. У пляне дэсталінізацыі пачынаецца цяпер і рэгабілітацыя нацыянальнае існасьці літаратуры, ейны зварот да народных вытокаў і дарэвалюцыйнае спадчыны, да нацыянальнага беларускага патрыятызму.

Глыбокі працэс дэсталінізацыі ў вагульнасавецкім маштабе й штораз вайстрэйшае асуджэньне ў літаратуры ня толькі асобы Сталіна, але і ўсяго сталінізму, пад які падцягвалася ўсё тое ліха, што шалела ў сталінскія гады, запалохалі напрыпце партыйныя вярхі й першнаперш самога Хрушчова. У сваім дакладзе на сустрэчы кіраўнікоў партыі і ўраду зь дзеячамі літаратуры і мастацтва 8 сакавіка 1963 году Хрушчоў ад ранейшага асуджэньня перайшоў да абароны сталінізму ў літаратуры. Ён казаў:

**„...няправільна робяць тыя пісьменьнікі, як'я вельмі аднабакова падходзяць да ацэнкі таго этапу ў жыцьці нашай краіны, спрабуючы паказаць ледзь ня ўсе падзеі ў змрочным сьвятле, перадаць чорнымі хварбамі. Яшчэ ня перавяліся пісьменьнікі, якія ўважаюць за лепшае чэрпаць для сябе матэр'ялы із сьметніку й хочуць выдаць так'я творы за праўдзівае асьвятленьне жыцьця народу...**

**Трэба даць адпор аматарам наклейваць ярлык „лакіроўшчыка" тым пісьменьнікам і дзеячом мастацтва, якія пішуць аб станоўчым у нашым жыцьці. А як-жа назваць тады тых, хто шукае ў жыцьці толькі дрэннае, паказвае ўсё ў чорных хварбах? Відаць, іх трэба назваць дзёгцямазамі..."**

Заклікі й перасьцярогі Хрушчова былі ня ў моцы ўжо спыніць працэсу дэсталінізацыі ў літаратуры. Дырэктыўная прамова Хрушчова ня выклікала ніякага трывалкага рэха ў літаратуры. Ня выклікала ніякага рэха й пастанова пленуму ЦК КПСС з 21 чырвеня 1963 году, у якой новыя плыні ў літаратуры й мастацтве зьвязваліся ўжо зь дзейнасьцяй ідэалягічнай дывэрсіі Захаду. Жыцьцё ішло сваёй каляінай, а разам зь ім разьвівалася й мастацкая літаратура паводля ўзятага на парозе 60-ых гадоў ідэйнага й мастацкага курсу.

Найбольшы размах дэсталінізацыі й разам зь ім найвышэйшы творчы ўздым мелі месца ў беларускай літаратуры на працягу ўсяе першае палавіны 60-ых гадоў. У гэтым пэрыядзе зьявіліся ў жанры беларускае мастацкае прозы гэткія выдатныя аповесьці й раманы, як „Людзі на балоце" й „Подых навальніцы" Івана Мележа, „Нельга забыць", „Дзікае паляваньне караля Стаха" й „Каласы пад сярпом тваім" Уладзімера Караткевіча. „Трэцяя ракета", „Альпійская балада" й „Мёртвым не баліць" Васіля Быкава, „Сэрца на далоні" і „Мост" Івана Шамякіна, „Птушкі і гнёзды" Янкі Брыля, ня кажучы ўжо пра вялікі сьцяг аповесьцяў, раманаў і апавяданьняў сярэдняй мастацкай якасьці.

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## КАЛЯДНЫЯ Й НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАНЬНІ Й ПАЖАДАНЬНІ ПРАЗ НАШУЮ ГАЗЭТУ

**Як і мінулымі гадамі, сьнежанскі нумар „Беларуса" ахвотна служыць нашым Суродзічам дзеля калядніх і навагодніх віншаваньняў і пажаданьняў. Каб мець зьмешчанае сваё імя й прозьвішча ў супольнай двушпальтовай у прыгожых рамках калёнцы, трэба да канца лістапада прыслаць у Рэдакцыю 10 даляраў. А хто жадаў-бы зьмясьціць сваё віншаваньне асобна ў рамках на 2-х шпальтах нашае газэты, неабходна да канца лістапада прыслаць 25 дал.**

**Карыстайце з добрай нагоды! Гэтым Вы атрымаеце час і грошы на індывідуальныя сьвяточныя віншаваньні, а таксама паможаце нашай газэце ў ейнай адказнай нацыянальнай службе.**

**Дык да канца лістапада чакаем ад Вас 10 або 25 даляраў.**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАГА САВЕЦКАГА ДРУКУ

### „ПАРУШАЕЦЦА РАЎНАВАГА Ў ПРЫРОДЗЕ"

„...Аднак хочацца пачаць гаворку менавіта аб тым, што асабліва ўсхвалявала ў часапісе („Неман", верасень 1971) надзённасьцю ўзьнятай праблемы, знайшло найпершы водгук у сэрцы. Прывядзём такі вось урывачак з маленькай нататкі Т. Фралоўскай „Па грыбы":

„Паход за грыбамі — гэта і рамантыка, і паэзія, і радасьць удачы, і сустрэча ізь сьветам жывым, і ў той-жа момант зусім нязвычайным... Вярнуўся, а цябе ўжо кліча туды зноў, і ў тваім уяўленьні ўзьнікае то вясёлы бярозавы лясок, то прахалодная ціша зарослага кустамі яру, то бойкі хвойнічак на ўзгорку і пошум дрэў, і захапляючы птушыны гоман, і хвалюючы водар грыбных месцаў".

Наўрад ці знойдзецца чалавек, якога пакіне абыякавым прыгожасьць асеньняга лесу! І, відаць, ня так тыя грыбы, як сустрэча з прыродай сам-на-сам, магчымасьць падыхаць настоеным лясньмі пахамі гаючым паветрам, засярэдзіцца, паразважаць пад ціхі пошум гаю, адпачыць, як кажуць, душой і целам — вось што кліча нас у лес. Ды гэткая бяда — зазірнеш праз год, праз два ў запаветную дуброву і не пазнеш вачам: няма яе, пуста, адны вырубкі. Наведаеш часам прыгожы хвойнічак ля гораду і абурышся да глыбіні душы: сярод зламаных, зьнявечаных залатаствольных сасонак — сьмецьце, горы сьмецьця, якое таропка звалена на купкі блакітных званочкаў. І няма таго раўчука, што струменіў у нізіне... А тут-жа нядаўна гулялі нашы дзеці, якіх прывозілі з гораду на ўлоньне прыроды. І само па сабе ўзьнікае балючае вострае пытаньне: чаму ў нас так не шануюць прыроды, чаму вырастаюць людзі, чэрствыя да яе? Ці-ж не таму, што мы, дарослыя, нярэдка яшчэ праходзім міма гэтай прыгажосьці, болей таго, шкодзім ёй, падаём дрэнны прыклад сваім дзецям?...

...На вялікі жаль, сярод нас пануе думка: прырода вечная і багацьці яе невычэрпныя... Але -ж ужо ў нашы дні мы становімся сьведкамі, як мялеюць і зьнікаюць рэкі, зьнішчаюцца стагадовыя дубровы і яе жыхары. Парушаецца так званая раўнавага ў прыродзе. А гэта можа прывесьці, па сьцьвярджэньні вучоных, да катастрафічных вынікаў — эрозіі і зьбядненьня краю.

Вось чаму недастаткова простага захапленьня прыродай, пасыўнай сузіральнасьці — трэба дзейнічаць, дзейнічаць неадкладна..." (Аўген Каршукоў „Тэма ня другарадная", „Літаратура і Мастацтва", 8 кастрычніка 1971).

### ЛЮДЗІ АДЫХОДНЫХ ПРОМЫСЛАЎ — „ШАБАШНІКІ"

„...Вось так кожную вясну з Драгічынскага раёну на цягніках і аўтобусах едуць на адыходныя промыслы сотні дужых, здаровых мужчын. Гэта — цесьляры і печнікі, муляры і сталяры, страхары і бляхары, адным словам, людзі, чыім майстэрствам ганарыўся-б любы калгас. Маршруты іх пралягаюць далёка за межы Беларусі, у месцы, дзе за зарэзу патрэбны рабочыя рукі, дзе падціскаюць тэрміны будаўнічых работ. Там, значыць, і начальства памяркоўнае, гатовае пайсьці на ўсё дазволенае (а часам і недазволенае), толькі-б хутчэй здаць у эксплаатацыю заплянаваныя аб'екты.

Вось чаму іншыя старшыні калгасаў, кіраўнікі саўгасаў з Расейскай Фэдэрацыі і Украіны ўжо ў лютым шлюць старым знаёмым пісьмы, запрашаючы зноў прыехаць, дапамагчы, абяцаюць не пакрыўдзіць пры разьліку. І нашы беларускія ўмельцы з ахвотай адгукаюцца на запрашэньні, і там стараюцца, працуюць ад зары і да зары.

Прама скажам, ня інтарэсы тамашніх гаспадарак штурхаюць іх на такі працоўны парыў. Іх падкліктваюць выгадныя ўмовы акорднай аплаты. Бо гэтым „багом" хуткаснага будаўніцтва, якіх цяпер з пашанай называюць сэзоньнікамі, выплачваецца 50 — 55 працэнтаў каштарыснага кошту аб'екту! Плюс дзесяткі цэнтнераў адборнага збожжа. Менавіта такая сыстэма і нарадзіла шабашніцтва: „Адгрукаў кароўнік (сьвінарнік, гараж), атрымаў грошы — і шабаш"!...

„...Адно можна сказаць пэўна, абапіраючыся на вопыт шматгадовых назіраньняў за гэтай зьявай кароткачасовай міграцыі. Большасьць тых, хто ад'яжджае на адыходныя промыслы, — людзі, якім у сябе дома, у родным калгасе няма куды прыкласьці сваё майстэрства. Хоць кожны калгас мае шырокую праграму культурна-бытавой перабудовы. Але чаму-ж гэтыя пляны арыентаваньня не на свае акорднааплачваныя будаўнічыя брыгады? Уся надзея на падрадчыкаў — раённыя ўпраўленьні „Міжкалгасбуда" і перасоўныя мэханізаваныя калёны Міністэрства сельскага будаўніцтва БССР. А гэтыя арганізацыі яшчэ ня могуць пахваліцца ні добрай арганізацыяй працы, ні высокімі заробкамі. Ня кожны кваліфікаваны цясьляр або муляр, які любіць работу „на ўсю сілу", туды ідзе...

...А ім-бы будаваць дзіцячыя сады і лазьні, вадзіць трактары і камбайны, пракладваць каналы новай мэльярацыйнай сыстэмы. І яшчэ многа-многа маглі-б зрабіць умельцы для свайго краю, які з кожным днём багацее, калі-б кіраўнікі зацікавілі іх, скарысталі іх залатыя рукі. Але ці то з прывычкі да старажытнай традыцыі адыходных промыслаў, ці з-за недахопу ініцыятывы дзесьці на баку традыцыя працы цудоўных работнікаў, і ня выпадкова некаторыя зь іх... сталі чужымі для сваёй сям'і і роднага сяла...

...Так, нашы беларускія ўмельцы пабудавалі ўжо нямала жывёлагадоўчых фэрмаў, дамоў, розных вытворчых і бытавых памяшканьняў. Але гэта дзесьці, а ня дома. Масавыя ад'езды выдатных работнікаў падрываюць эканоміку калгасаў, тармозяць перабудову вёскі, дэзарганізуюць сельскагаспадарчую вытворчасьць, зрываюць пляны набору работнікаў для будоўляў і прадпрыемстваў рэспублікі...

...Утрымаць патрэбных нашай вёсцы людзей можна, матарыяльна зацікавіўшы іх. Трэба, каб работа ў калгасе была круглы год, каб аплачвалася яна па прагрэсыўнай сыстэме. Тады нават той калгасьнік, у якога прытупілася пачуцьцё адказнасьці перад родным сялом, падумае, ці варта яму шукаць заробку на баку". (М. Грыцан „Шабашнікі", „Літаратура і Мастацтва", 8 кастрычніка 1971).

# ГАДАВЫ БАЛЬ ВАЗА У НЬЮ ДЖЭРЗІ

У сыботу 4 верасьня адбыўся Гадавы Баль у залі Шакаў у Саўт Рывэры. Гэты баль можна ўважаць адной з найбольш удалых імпрэзаў, ладжаных апошнім часам Аддзелам БАЗА ў Нью Джэрзі.

Прысутныя весела забаўляліся пад гукі ўзмоцненай аркестры Уладзімера Бычкоўскага. Гэтае ўзмацненьне аркестры вельмі дадатна ацанілі ўдзельнікі балю, часта ўзнагароджваючы музыкантаў цалком заслужанымі воплескамі, асабліва пасьля нумароў, выконваных „для слуху".

Была разыграная лятарэя з даволі каштоўнымі фантамі, як аўтаматычная тэлефонная кніжка, пляшка шампанскага ці пляшка віскі. Бойка працаваў буфэт і бар. Хоць гэты апошні й ня быў у руках арганізатараў балю, але, даўшы даход собсьнікам залі, тым самым зьменшыў аплату за яе.

Напрыканцы адбыліся выбары „Каралевы Балю" паводле колькасьці ахвяраваных кветак паасобным кандыдаткам. Пасьля падліку кветак аказалася, што найбольшую іхную колькасьць атрымала спадарычня Ганна Лог з Трэнтону, Нью Джэрзі, а другое месца ўзяла спадарычня Маргарыта Кажан із Стамфарду, Канэктыкат.

Калі а 2-ой гадзіне пад раніцу быў абвешчаны канец балю, дык прысутныя вельмі неахотна прынялі гэта да ведама й яшчэ некаторы час заставаліся на залі. Пасьля падлічэньня аказалася, што баль прынёс у касу Аддзелу БАЗА 136.34 даляраў чыстага прыбытку.



Ганна Лог — „Каралева Балю"

Управа Аддзелу БАЗА складае шчырую падзяку ўсім, хто прычыніўся да наладжаньня імпрэзы або дапамагаў у ейным правядзеньні, перш-наперш замесцовым: сп-ні Любе й сп-чні Маргарыце Кажаном, сп-чні Раі Станкевіч, а тады мясцовым сп-ням А. Даніловіч, Н. Стома, С. Швэд і А. Супрун.

Сябра Управы

# З рэлігійнага жыцьця Дэтройту

31 ліпеня й 1 жніўня Парахвія Сьв. Духа БАПЦарквы ў Іст Дэтройце зь ініцыятывы сп. Міколы Шуста зь Лёндану, Канада, наладзіла спатканьне зь Беларусамі-Канадыйцамі зь Лёндану й аколіцаў.

Беларускі асяродак у Лёндане, невялікі колькасьцяй, але актыўны ў грамадзкім жыцьці, зарганізаваў гэтае спатканьне над прыгожым возерам Гюрон у правінцыяльным парку Іпэрвош, дзе Беларусы-Канадыйцы маюць свае летнія рэзыдэнцыі.

У сыботу 31 ліпеня адбыўся сяброўскі вечар, удзельнікі якога віталі прысутнага на вечары Д-ра Б. Рагулю зь сям'ёю зь ягонымі дасюлешнімі посьпехамі ў галіне мэдыцыны ды жадалі далейшых удачаў у гэтай галіне.

На другі дзень, 1 жніўня, Уладыка Мікалай з Таронта адправіў Божую Службу ў летнім памешканьні Міколы Шуста з удзелам царкоўнага хору з Дэтройту. На Багаслужбе было шмат прысутных гасьцей з Канады і з штату Мічыган. Пасьля Багаслужбы прысутныя ў сяброўскай атмасфэры правялі колькі гадзін у гасьціннай сям'і сп-за Шустаў.

В. П.

# ЯК УКРАІНЦЫ РУПЯЦЦА ПРА СВАЮ МОВУ Й КУЛЬТУРУ

Вымоўна ілюстравала гэтая канфэрэнцыя — „Захаваньне й разьвіцьцё украінскае культуры ў Канадзе", якая была часткаю сьвяткаваньня 80-е гадавіны пасяленьня Украінцаў у Канадзе. Канфэрэнцыю арганізаваў Камітэт Украінцаў Канады (КУК). Адбылася яна 18 і 19 верасьня ў будынку Нацыянальнае Бібліятэкі й Публічнага Архіву ў Атаве. На канфэрэнцыю запрошаны былі прадстаўнікі Фэдэральнага й Правінцыяльных — Антарыйскага й Квібэцкага — урадаў, ды прадстаўнікі іншых этнічных груп, у тым ліку й Беларусаў. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады рэпрэзэнтавала Д-р Раіса Жук-Грышкевіч, а Згуртаваньне Беларусаў Канады — Янка Сурвіла.

Канфэрэнцыя складалася з чатырох сэсіяў: 1. Асьвета, 2. Творчасьць, 3. Кірункі палітыкі, 4. Пастановы — Рэкамэндацыі.

Агульную думку канфэрэнцыі, на якую складалася адзінаццаць фаховых дакладаў і тры пэрыяды дыскусіяў, можна схарактарызаваць наступна: Дзеля таго, што Украінцы засяляюць Канаду ўжо 80 год, цяпер налічваюць пад мільёну жыхароў, гуляюць значную ролю ўва ўсіх адрэзках канадзкага жыцьця, плацяць значны працэнт падаткаў, маюць вядучую ролю ў руху этнічных груп дзеля захаваньня й разьвіцьця розных культур, як складовае часткі многакультурнай канадзкай мазаікі, украінская мова й культура мае права й павінна здабыць прызнаньне, а ўкраінская этнічная група павінна стацца партнэрам брытанскай і францускай этнічнай групаў ува ўсіх аспэктах канадзкага жыцьця.

Вялікая ўвага была прысьвечана ўкраінскаму школьніцтву, якое павінна быць фінансаванае й урадам, разьвіцьцю мастацтва ўва ўсіх яго родах, а перадусім захаваньню ўкраінскае мовы, як найважнейшага сродку й праваднiка культуры. Захаваньне й культываваньне ўкраінскае мовы й культуры ў Канадзе тым болей важнае, што яна глумяцца на Украіне. І калі-б даць памерці ўкраінскай мове й культуры тут, яна там будзе зглумленай канчальна. Нямала ўвагі было прысьвечана значэньню бібліятэк, архіваў і музэяў, як вялікай сіле, патрэбнай і неабходнай дзеля захаваньня й разьвіцьця культуры.

Сэнатар Пол Юзык гэтак закончыў сваю прамову й трэйцюю сэсію канфэрэнцыі: „Паважна думачыя грамадзяне украінскія Канадыйцы актыўна зацікаўленыя ў дабрабыце Канады. Яны прыкладаюць усе стараньні, каб спрычыніцца да прагрэсу ўва ўсіх дзялянках канадзкага жыцьця дзеля зьдзейсьненьня прынцыпу „адзінства ў разнаякасьці" праз супрацоўніцтва ўсіх груп, праз лепшае зразуменьне канадзкае рэчаіснасьці. Асягнуўшы значны прагрэс у шматлікіх галінах жыцьця, украінскія Канадыйцы хацелі-б, каб і іншыя групы імкнуліся да стварэньня лепшае грамадкасьці ў Канадзе, ды выказалі добрую волю супрацоўнічаць з усімі этнічнымі групамі й урадамі для агульнага дабра Канады".

Арганізацыйная спраўнасьць, высокі культурны й інтэлектуальны ўзровень канфэрэнцыі, а перадусім патрыятызм дзі сіла духа ўдзельнікаў канфэрэнцыі сьветчаць аб тым, што жывое душа ў народзе украінскім. Жыве, бо народ гэты дбае й змагаецца за правы для свае мовы й культуры.

Р. Ж-Г.

ЦІ ВЫ ЎЖО ВЫСЛАЛІ АХВЯРУ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"?

# БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ТЭМАТЫКА НА ПАШТОВЫХ МАРКАХ

Нацыянальную справу можна прапагаваць усялякімі спосабамі і пры кажнай нагодзе. Напэўна гэта і мелі на ўвазе Беларусы ЗБВБ, калі ў пачатку бягучага году выкарысталі забастоўку паштавікоў у Ангельшчыне і стварылі г. зв. „Пошту ЗБВБ", каб, такім чынам, папулярызаваць імя Беларусі. Бо і сапраўды, з усіх эміграцтаў, што жывуць у Вялікабрытаніі, толькі Беларусы здагадаліся выкарыстаць палажэньне й за 19 дзён да канца забастоўкі выпусьцілі аж дзьве сэрыі беларускіх паштовых марак[1].

Марка — гэта знак паштовай аплаты і ўмоўная адзнака дзяржаўнай прыналежнасьці[2]. Маркі зьявіліся 131 год таму назад. 1-га траўня 1840 году, дзякуючы стараньням бэрмінгэмскага настаўніка, Роўлянда Гілла, была выпушчаная ў Ангельшчыне першая паштовая марка. Дзесяць год пазьней адзін бэльгійскі настаўнік, каб зацікавіць сваіх вучняў да вывучэньня геаграфіі, увёў звычай калекцыянаваньня марак. У 1865 годзе Француз Арпэн прыдумаў слова „філятэлія" і такім чынам узьнік філятэлізм, тэрмін, які азначае зьбіраньне і вывучэньне марак і іншых знакаў паштовай аплаты, карэспандэнцыі, канвэртаў і паштовак із штэмпляванымі маркамі.

Сяньня калекцыянаваньнем паштовых марак займаюцца міліёны людзей рознага веку. У Ангельшчыне, напрыклад, захапляюцца калекцыянаваньнем больш чымся чатыры міліёны асобаў. За апошнія сто з лішнім год альбомы зьбіральнікаў марак сталіся найбольш наводочнымі падручнікамі геаграфіі і гісторыі, дзе паміж магутных дзяржаваў можна знайсьці і найменшыя краі, каралеўствы, рэспублікі ці княствы. Шмат зь іх нельга ўжо сустрэць навет у падручніках геаграфіі. Філятэлізм разьвіўся да такіх памераў, што сяньня існуюць ужо шматлікія філятэлістычныя таварыствы, арганізуюцца адмысловыя кангрэсы і выстаўкі, ёсьць багатая філятэлістычная літаратура, каталёгі, альбомы, бібліятэкі, а некаторыя паважныя газэты (сярод іх і беларуская газэта „Літаратура і Мастацтва") вядуць спэцыяльны куток калекцыянера, дзе можна знайсьці ўсе навінкі філятэлістычнага сьвету.

Ня ведаем дакладна, колькі ў Беларусі людзей займаецца калекцыянаваньнем паштовых марак. Судзячы па паведамленьнях савецкае прэсы, іх ёсьць некалькі дзесяткаў тысяч й лік гэты павялічваецца з кажным годам.

У 1965 годзе, у Савецкім Саюзе адзначалася 300 год расейскае пошты. З гэтае нагоды Міністэрства Сувязі СССР выпусьціла адмысловую сэрыю з чатырох марак пад назовам „Гісторыя Айчыннай пошты". Сэрыя адчынялася маркай, на якой намаляваны конны і пешы ганцы XVI стагодзьдзя, і канчалася маркай, якая паказвае сяньняшні дзень савецкай паштовай сувязі[3]. Мы ўспомнілі гэты юбілей таму, што з 300-годзьдзем расейскае пошты атрымалася тое самае, што і з 400-годзьдзем расейскага кнігадрукаваньня, якое адзначалася ў 1964 годзе вясною[4]. Тады, як ведама, ня гледзячы на тое, што кнігадрукаваньне ў Беларусі пачалося на цэлае паўстагодзьдзе перад тым, калі пачаў сваю друкарскую дзейнасьць навучаны Беларусамі расейскі першадрукар Іван Фёдараў[5]. У БССР шумна ўшаноўваўся юбілей „старэйшага брата" і амаль поўнасьцю замоўчваўся факт існаваньня слаўнай традыцыі кнігадрукаваньня беларускага.

А пошта беларуская зьяўляецца адной з найстарэйшых у Эўропе[6]. Яна зарадзілася дзесьці ў XI стагодзьдзі, калі для ўтрыманьня сувязі паміж княствамі і паміж князямі і іхнымі падуладнымі конныя ганцы завозілі з аднаго места ў другое граматы, загады, данясеньні і пісьмы. Гэтыя ганцы пасылаліся ўва ўсе куткі княства, а таксама і ў іншыя краі. Яны карысталіся асаблівымі правамі. Спачатку ганцы выбіраліся нерэгулярна, у залежнасьці ад патрэбаў. Часта яны забясьпечваліся адмысловымі княскімі граматамі, а бывала і так, што, едучы з поштай, ганец браў сабе ўзброеную ахову, якая бараніла яго ад розных небясьпекаў. Гэткім спосабам утрымоўвалася паштовая сувязь на Беларусі да 1565 году, калі пошта была ўзаконеная і былі ўведзеныя гэтак званыя „паштовыя грошы". Яны служылі для аплачваньня фурманак за перавоз пошты, ганцоў і дзяржаўных урадоўцаў.

Ад гэтае даты і лічыцца афіцыйнае заснаваньне нашае пошты. Так што, калі ў 1956 годзе Расейцы адзначалі трохсоты юбілей свае пошты — Беларусы павінны былі-б адзначаць 400-годзьдзе! На жаль нічога падобнага ня было. Ня толькі што ня была выпушчаная марка, якая-б была прысьвечаная гэтай падзеі, але наагул усё пытаньне было замоўчанае савецкай прэсай (што, між іншым, яшчэ раз выяўляе хлусьлівасьць маскоўска-бальшавіцкіх лёзунгаў пра „сувэрэннасьць" савецкай Беларусі).

Праўда, у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 19-га студзеня 1968, у рубрыцы „З пошты ЛіМа" было надрукаванае пісьмо ў рэдакцыю А. Мальдзіса пад загалоўкам: „Юбілей, які не адзначаўся", дзе закранаецца справа ўгодкаў заснаваньня беларускае пошты. Мальдзіс піша:

„Гады з два таму я праглядаў гістарычна-краязнаўчы нарыс Ул. Сыракомлі „Мінск", які быў зьмешчаны ў польскім часапісе „Тэка Віленьска" ў 1857 годзе. У вочы кінуўся радок аб тым, што першая паштовая ўстанова ў Менску была адкрыта ў 1717 годзе, калі праз горад пралягала рэгулярная паштовая лінія ад Вільні на Магілёў і далей — да Масквы. Супастаўце лічбы 1717 і 1967. Атрымліваецца 250 гадоў".

„Аб усім гэтым — працягвае А. Мальдзіс — я напісаў у пісьме на імя міністра сувязі БССР. Так і так, паважаны таварыш міністар, ёсьць падставы адсьвяткаваць юбілей менскай пошты ці навет беларускай пошты ўвогуле... Праз нейкі час, 10 лістапада 1966 году, я атрымаў ліст з подпісам намесьніка начальніка паштовага ўпраўленьня Міністэрства сувязі М. Рыбаковай. „На Ваша пісьмо паведамляю, — гаварылася ў ім, — што Міністэрствам сувязі БССР удакладняецца дата 250-годзьдзя Менскай пошты. З удакладненьнем даты будуць прыняты меры па падрыхтоўцы неабходнага матар'ялу для выпуску паштовай маркі і канвэрту".

„Аднак, — піша далей Мальдзіс — закончыўся 1966, закончыўся і 1967 год, а дата ўсё „ўдакладняецца"... Як бы там ні было, але юбілей адзначаны ня быў".

Як бачым, навет сыціплая прапа-

# МАЛАДЫ ПАЭТА ЛЕАНІД ДАЙНЕКА

На першую паэтычную кнігу Леаніда Данейкі „Галасы", што выйшла ў сэрыі „Першая кніга паэты" ў 1969 годзе, у літаратурных часапісах і ў газэце „Літаратура і Мастацтва" зьявіліся былі аж чатыры рэцэньзіі. І ўсе — высока пазытыўныя. Апрача гэтага, на творы ягоныя часта паклікаюцца, таксама пазытыўна, і аўтары агульных крытычных артыкулаў. Калі ўзяць увагу на факт, што паэтычныя зборнікі маладых паэтаў у найлепшым выпадку звычайна маюць дзьве рэцэнзіі, найчасьцей адну, а нярэдка й ніводнай, дык ужо адно гэта сьветчыць пра тое, што Дайнекава паэтычная творчасьць узапраўды вартая ўвагі. Характэрна й тое, што аўтарамі згаданых чатырох рэцэньзіяў на паэтычны зборнік Леаніда Дайнекі „Галасы" самі паэты: Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Сяргей Законьнікаў і Кастусь Цьвірка, што адно пабочна займаюцца літаратурнай крытыкай.

Леанід Дайнека мае даволі цікавую й багатую біяграфію, што ў ладнай ступені адбілася й на ягонай творчасьці. Нарадзіўся ён у 1940 годзе ў сялянскай сям'і на Магілеўшчыне. Пасьля сканчэньня дзесяцігодкі тры гады працаваў сьлёсарам на мэталюргічным заводзе на Урале. Тады служыў у Савецкай арміі, скончыў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, а цяпер працуе старшым рэдактарам на Віцебскай абласной тэлевізійнай студыі. Займацца паэзіяй пачаў Дайнека ў 1961 годзе, але даволі даўгі час пісаў ён на расейскай мове. З гэтае прычыны ў яго, як цьвердзіць у сваёй рэцэньзіі Ніл Гілевіч, „для нармальнага, здаровага кровазвароту, для поўнага й свабоднага — на ўсе грудзі — дыханьня не хапала паветра". Зразумеў гэта й сам паэта і праз нейкі час, як чытаем у згаданай рэцэньзіі Ніла Гілевіча, „загаварыў сваім, жывым і ня вымушаным голасам, на свабодным дыханьні" — на роднай беларускай мове. За гэны свой спачатны адрыў ад роднае мовы й апяваньня роднага краю будзе ён пазьней дакараць самога сябе ў наступных радкох свайго вершу:

Нібы поўнае мора —
Мая родная мова.

..........

I балюча на сэрцы,
Што бываў я ня часта
Каля бацькавай хаты,
Каля роднага ганку,
Дзе пастух напявае
У трубу-берасьцянку.
Дзе вясновае сонца
Над бярозамі сьвеціць,
Дзе буслом усьміхаюцца
Сінявокія дзеці.

Характэрна, што ў вершах ягонага зборніка мы яшчэ не знаходзім водгукаў гэнае працы на заводзе. Затое ў вершах, што зьявіліся ў друку летась, ужо па выхадзе ягонага зборніка, тэма хвабрычнае працы моцна займае паэтаву ўвагу. Гэтай тэме прысьвяціў ён адзін з найлепшых сваіх вершаў у цыклі, надрукаваным у газэце „Літаратура і Мастацтва" летась. У вершы гэным паэта кажа:

Хай у печах мартэнаўскіх сонца бушуе.
Хай на скроні каханых ня ляжа зіма.
На уральскім агні загартоўваў душу я,
І пакуль што ні зломаў ні трэшчын няма...

..........

Тыя дні, як са школьнае дошкі, ня сьцерці,
Тыя дні маіх думак і слоў разьбяры.

Цяжкая праца на уральскім заводзе й туга па далёкай бацькаўшчыне выкрышталізавалі ў душы маладога паэты паважны пагляд на сьвет, удумлівы падыход да рэчаіснасьці, высокія маральна-этычныя нормы ў ацэне жыцьця й людзей, зрадзілі грамадзянскія матывы ў ягонай паэзіі. У іншым сваім вершы згаданага леташняга цыклю паэта піша:

Ёсьць розьніца паміж агнём і дымам,
Паміж высокай праўдай і маной.
Той, хто да славы лезе напралом,
Хто кожны дзень жыве у новай ролі,
Ня стане белым лебедзем ніколі,
А вечна будзе брыдкім качанём.
Сьвятлом зары напоўніўшы свой дом,
Устаньце, людзі пільныя, на варту —
І чэрствасьці халоднай кантрабанду
Не пранясе душа з падвойным дном.

Паэтавым запаветным жаданьнем — каб ягоная паэзія верна служыла высокім маральным прынцыпам — праўдзе й ідэі запраўднай чалавечнасьці, каб гэтую сваю службу выконвала й пасьля паэтавай сьмерці. Свой верш „Зямля" ў згаданым цыклі ён канчае гэткімі вымоўнымі радкамі:

Калі сустрэнуся ў жыцьці
З апошніх дзён апошнім кругам,
Зямля, хачу к табе прыйсьці
Ня шэрым попелам, а плугам.

Тэматычнае кола вершаў Леаніда Дайнекі шырокае й багатае. Побач зь вершамі пра вечныя маральна-этычныя каштоўнасьці ў чалавечай душы, пра народнае пакутніцтва ў мінулай вайне, пра глыбокія захапленьні зьявамі й вобразамі роднае прыроды, вершамі пра каханьне, што ўшляхатняе і ўдасканальвае чалавека, галоўнай і цэнтральнай тэмай ягонае паэзіі, як аднаэгодна адзначае й крытыка, патрыятычная любасьць да роднае зямлі. У зборніку „Галасы" чытаем гэткія вымоўныя й шчыра ўсхваляваныя радкі:

Зямля мая! Мой дом, мой хлеб адзіны.
Я вечна твой, я б'ю табе чалом.
Хай вецер і праз вёсны і праз зімы
Зьвініць ля вуха залатым чмялём.

У асэнсаваньні патрыятычнай тэмы паэта часта зварачаецца да гістарычнай мінуўшчыны, услаўляючы бунтарныя ўзрывы народу ў ягоным змаганьні супраць сацыяльнае й нацыянальнае крыўды ды знаходзячы прычыновую сувязь гістарычнай мінуўшчыны з днём сяньняшнім. Сваіх продкаў паэта йнакш і ня ўяўляе, як толькі непакорных бунтароў, што „пад панскія дахі" пускалі „чырвонага пеўня". Яму здаецца, што па беларускай зямлі зусім нядаўна „на гарачым кані праляцеў Каліноўскі", а „звонкі гром капытоў шчэ жыве за курганам".

Цалком патрыятычнай тэме, тэме радзімы-бацькаўшчыны прысьвяціў Леанід Дайнека сваю лірычную паэму „Ключ", надрукаваную ў сёлетнім студзенскім нумары часапісу „Маладосьць". Загаловак паэмы „Ключ" — гэта алегарычны вобраз усяго таго, што адмыкае чалавеку дзьверы да роднага краю. Паэма пабудаваная ў форме дыялёгу паміж Маці — алегарычным вобразам бацькаўшчыны і ейным Сынам — алегарычным вобразам і паэты і ўсяго маладога пакаленьня народу. Ідэйным запевам да паэмы — наступныя словы Маці:

Мой сынок, для людзей
памяністаю зоркай гары.
Ды куды-б не паехаў,
куды-б па зямлі ні пайшоў, —
Ключ ад роднае хаты
з сабою ў дарогу бяры,
Ня губляй гэты ключ,
калі хочаш вярнуцца дамоў.

Уся паэма „Ключ" — гэта натхненны гімн роднай беларускай зямлі, падобных якому, з гледзішча на ягоную глыбокую ідэйную вымову і ўзьвышанасьць пачуцьця, ня шмат знойдзем у сучаснай беларускай паэзіі. Прывядзём найбольш вымоўныя радкі паэмы:

... Ізноў паглядам я абняў
Край самы сьветлы, самы лепшы.
Быў летні вечар. Цішыня
Паклала рукі мне на плечы.

Быў летні вечар. Родны дом.
Травою пахла. Пахла дымам.
Блакітнай поўняй над сялом
Мне ў вочы глянула Радзіма.

О пустаслоў-касмапаліт,
Цябе я зноў і зноў шкадую.
Табе ніколі не праліць
Сьлязу сыноўнюю сьвятую.

Шукай сівых вякоў сьляды,
Пішы вучоныя трактаты,
Ды будзеш жыць, як крот сьляпы,
Калі ня маеш роднай хаты.

..........

... У цішыні, у барацьбе,
Пад ветру грознага павевам,
Радзіма, бачу я цябе
Вечназялёным, мудрым дрэвам.

Цябе ня зломіць вецер злы.
Дзяды — вось корань твой глыбінны,
Бацькі — надзейныя ствалы,
А мы — бясонныя галіны.

..........

Яна у нас адна, адна.
І бязь імя яе на вуснах
Даўно-б мы высахлі да дна,
Як рэкі, што ня маюць вусьця.

Яна наш вечны неспакой,
нішто нас зь ёю не разлучыць.
Калі ў бядзе балюча ёй,
Павінна быць і нам балюча.

Як відаць ужо з прыведзеных урыўкаў, верш Леаніда Дайнекі ня вызначаецца модным наватарствам паэтычнае формы. Верш ягоны традыцыйны, вытрыманы ў рэгулярных формах клясычнага верша. Ён ляканічны ў словах, ня перагрувашчаны шматслоўем і элемэнтам апісальным. Затое вобразнасьць Дайнекавага верша сьвежая й арыгінальная, вольная ад літаратурных штампаў і сьцёртых выслоўяў. Выказаныя гэткімі мастацкімі вобразамі й канкрэтнымі дэталямі думкі й пачуцьці маюць вялікую пераканальную моц і эмацыянальнае ўзьдзеяньне на чытача. А сугучнае сваёй душы ўзьдзеяньне на чытача ставіць Леанід Дайнека галоўнай мэтай сваёй паэзіі.

У васобе Леаніда Дайнекі прыходзіць у беларускую літаратуру высока таленавіты, арыгінальны й самабытны паэта няштодзённага мастацкага ўзьвышша й глыбокае патрыятычнае вымовы сваёй паэзіі.

**Андрэй Сьціба**

# ЧАРОДНАЯ КРУЖЭЛКА КЛЮБУ "ПАГОНЯ"

Беларускі хор „Жалейка" у Монтрэалі

За пару тыдняў паявіцца 6-ая з чаргі кружэлка, выдадзеная сродкамі Беларускага Выдавецка-Мастацкага Клюбу „Пагоня". Гэтая кружэлка будзе зьмяшчаць 8 песьняў былага мантрэальскага хору „Жалейка", якім кіраваў Я. Казачок, а вокладка будзе мець прыгожы беларускі народны ўзор із фотаздымкай хору. Песьні наступныя: 1. Марш беларускіх партызанаў, 2. На выгнаньні, 3. Лапці, 4. Вазёры сьпяць, 5. У саду гуляла, 6. Драўляны дом, 7. Ой, да ты, калініца, 8. Церaз сад-вінаград. Як ведама, сябры Клюбу „Пагоня" атрымліваюць усе клюбныя выданьні бясплатна. Таму выкарыстоўваем гэтую нагоду й заклікаем усіх нашых суродзічаў запісвацца ў сябры згаданага Клюбу.

Замаўленьні на гэты й ранейшыя выпускі просім кіраваць на адрыс: Club PAHONIA, 524 St. Clarens Ave., Toronto 4, Ont. Canada.

## ПЛЯКАТ ЮНІСЭФ СТ. ТАМАРЫ

Беларуская мастачка Ст. Тамара, што жыве ў Амэрыцы, выканала плякат, што здабыў першае месца й быў прыняты да друку міжнародным агенцтвам пры АЗН, ЮНІСЭФ у сёлетняй кампаніі продажу калядных і навагодніх картачак. Прыбытак з продажу гэтых картачак пойдзе ў фонд ЮНІСЭФ на міжнародную дапамогу дзецям.

На плякаце Ст. Тамары — фігура анёла з трубою ды напісамі ў розных мовах. Плякат гэты сёлета можна будзе пабачыць на міжнародных лётнішчах, у лёнданскай падземнай чыгунцы, у заходняя-мецкіх паштамтах ды іншых месцах розных гарадоў сьвету.

Ст. Тамага ўдзельнічае сёлета ў кастрычніку ў дзьвюх выстаўках абразоў: у ньюёркаўскай выстаўцы жаноцкага клюбу імя Катарыны Лёрылярд Вулф (дзьве гравюры, адна зь іх на тэму „Беларуская зіма") ды ў выстаўцы мастакоў-супрацоўнікаў ЮНІСЭФ у Стэмфордзе, штат Канэктыкэт.

## ВАСЕНЬНЯЯ ВЕЧАРЫНА БАЗА Ў НЬЮ ЁРКУ

Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку зладзіла 2 кастрычніка сёлета васеньнюю танцавальную вечарыну. Да танцаў грала аркестра „Дыпляматы" пад кіраўніцтвам Вальдзімера Базіка. Чысты даход зь вечарыны — з уваходных білетаў, лятарэі й буфэту прынёс у касу Аддзелу 80 даляраў.

Управа Аддзелу БАЗА мае намер зладзіць падобныя імпрэзы ў канцы лістапада й на сустрэчу Новага Году.

---

нова аўтара ўспомненага пісьма адзначыць 250-годзьдзе беларускае пошты была поўнасьцю зігнараваная акупацыйнымі ўладамі. Кажам „сьціплая", бо мы ўпэўненыя, што гэтак А. Мальдзіс, як і вядомы спэцыялісты зь гісторыі старажытнабеларускага гораду, З. Капыскі, да каторага зьвярталіся зь Міністэрства сувязі для ўдакладненьня даты, вельмі добра абазнаныя з заканадаўчымі актамі Вялікага Княства Літоўскага і з датай узаконеньня беларускае пошты. Але, як выглядае, Масква бярэ сьціпласьць за слабасьць, а церпім мы, Беларусы...

Аднак вернемся да гісторыі нашае пошты. З разьвіцьцём яе зьявяляліся і новыя запатрабаваньні, як напрыклад, устанаўленьне паштовых трактаў і пабудова адмысловых станцыяў — паштовых установак. У 1772 годзе былі ўведзеныя новыя правы паштовай аплаты. 12 год пазьней гэтая аплата была павышаная. Але, дзякуючы пошце, пашыраліся дарогі, будаваліся масты і паштовыя дамы. Праўда, вайна 1812 году нанесла вялікія страты беларускай пошце. Аднак, дзякуючы клопатам нашай шляхты, яна перажыла крызіс і хутка стала на шлях разбудовы.

Калі ў 1840 годзе зьявілася ў Ангельшчыне першая паштовая марка — Беларусь была „Забраным Краем", калі, як пісаў Янка Купала:

Мы ў паніжэньні, ў вечным трудзе,
З днём кожным слабшыя на сіле,
Бясцэльна па калючай грудзе
Блудзілі, горасна блудзілі.

Быльлём асуджан быў валяцца
Сын свайго краю, родных межаў;
Калі-ж хто ўздумаў прачыхацца,
Курган прыбавіў толькі сьвежы...

Зразумела, што ў такіх абставінах ня было і мовы аб выданьні беларускіх паштовых марак. Таму на ўсёй тэрыторыі Беларусі адзінымі маркамі ў вабароце былі маркі расейскія, з двуглавым арлом і царамі „з напышлівымі, пешчанымі тварамі..."[7]), выпушчаныя ўпяршыню ў 1857 годзе. Яны праіснавалі да 1922 году.

Абвешчаньне незалежнасьці Беларусі і ўтварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе выклікала патрэбу выданьня сваіх собскіх марак. Спачатку быў зроблены беларускі штамп на расейскіх марках[8]), якія ў той час былі ў вабароце. Хутка, аднак, была выпушчаная сэрыя марак Беларускай Народнай Рэспублікі. Яна складалася з трох марак, на якіх фігуравалі: Франьцішак Скарына, нацыянальны гэрб „Пагоня" і араты[9]). У 1920 годзе была выдадзеная другая сэрыя зь пяці марак з надпісам „Асобы атрад БНР". Яна была выдадзеная камандзерам Беларускага Армейскага Корпусу БНР, генэралам Булак-Балаховічам у месяцы красавіку.

Маркі гэтыя перавыдаваліся пазьней аж чатыры разы. У філятэлістычнай літаратуры яны лічацца падробкамі[10]). Трэба адзначыць, што ў гэны час на тэрыторыі Беларусі былі аднача сна ў вабароце маркі нашых акупантаў: яшчэ ў 1916 годзе ў Беластоку была выпушчаная марка нямецкімі акупацыйнымі ўладамі; у 1918 — у Горадні была выдадзеная марка зь нямецка-польскім надпісам, а ў наступным, 1919, таксама ў Горадні, на 9 расейскіх паштовых марках быў зроблены надпіс у летувіскай і беларускай мовах. У каталёзе Станлей Гіббонса яны фігуруюць пад „Паўднёвай Літвой"[11]). У пачатку 20-х гадоў, на тэрыторыі гэтак званай „Сярэдняй Літвы" польскія адміністрацыйныя ўлады выпусьцілі каля 50 паштовых марак. На Віленшчыне былі ў вабароце маркі летувіскія, а на тэрыторыі акупаванай бальшавікамі — савецкія (пачынаючы з 1921 году).

Трэйцяя сэрыя марак БНР была выдадзена ў 1923-1924 гадох у Коўні нашым эміграцыйным урадам, аднак маркі гэтыя нідзе ня фігуруюць у замежных каталёгах. На працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў беларускія паштовыя маркі выдаваліся рознымі камітэтамі і арганізацыямі на чужыне, а пасьля Другой сусьветнай вайны экзыльны ўрад БНР выдаў прыгожую сэрыю зь пяці марак, якія наклейваюцца да сяньняшняга дня побач з маркамі краінаў, скуль высылаюцца лісты.

Што-ж датычыцца да беларускай нацыянальнай тэматыкі ў філятэліі, дык мусім сьцьвердзіць наступнае: 131 год існаваньня паштовых марак паказала, што яна можа фігураваць пад сваім імем толькі на марках, выдадзеных сваім незалежным урадам. У іншым выпадку беларусіка выступае пад чужой шыльдай. Гэтак, напрыклад, на перадваенных польскіх паштовых марках можна было бачыць віленскую Вострую Браму, Мірскі Замак, каталіцкі сабор у Вільні, супольных польска-беларускіх (літоўскіх) каралёў, гэтмана Хадкевіча, а на марках „Сярэдняе Літвы", апрача гэтага, Сабор сьв. Мікалая ў Вільні, „Пагоню", Замкавую Гару, Замак Тышкевічаў, сыноў беларускае зямлі — Касьцюшку і Міцкевіча ды інш. На марках Летувы — вялікіх князёў Міндоўга, Гедыміна, Вітаўта, Кейстута, Альгерда, руіны замку ў Троках — адным словам усё, што зьвязана з залатой парой гісторыі нашага народу — Вялікім Княствам Літоўскім. Аднак усё гэта фігуравала пад імем Польшчы або Летувіскай рэспублікі!

**(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**В. Сянькевіч**

1) „Пошта ЗБВБ у Ангельшчыне", „Беларус", № 167, 1971, б. 5; Полчанінов Р.: „Уголок коллекционера— Пошта ЗБВБ", „Новое Русское Слово" за 3. V. і 6. VI 1971 г.

2) Белавусаў А.: „Маркі расказваюць", „Беларусь", № 1, 1969, б. 31.

3) „Да 300-годзьдзя рускай пошты", „ЛіМ, № 20 за 9. 3. 1965, б. 1.

4) Залескі А., Капыскі З. „400 год рускага кнігадрукаваньня", „Весьці АН Бел. ССР", № 3, 1964, Сэрыя грамадзкіх навук, бб. 134-136; „400 лет русского книгопечатания", Москва, 1964; Цяплоў Л.: „У старажытнай друкарні, да 400-годзьдзя рускага кнігадрукаваньня", ЛіМ, № 12 за 11. 2. 1964, б. 4.

5) „Национальность и родопроисхождение Ивана Федорова, первопечатника в Москве", Изд. Эмигрантов из Вязмы, Вязьма — Нью Йорк, 1966.

6) Рута: „Пошта на Беларусі", — „Віці", № 1/9, Нью Ёрк, 1965, бб. 10-13.

7). Белавусаў А., тамсама.

8). Сільвановіч М.: „Зьбірайма і мы!", „Бацькаўшчына", № 4/7, за 15. 2. 1948 г.

9). Dziemidzik J.: "Byelorussia — Little Known To The Local Collector", „Stamp Weekly", 9. 4. 1970, p. 6.

10). Fletcher H. G. L. & Fletcher W. P.: "White Russia — Notes on the Genuine and Forgeries", "British Journal of Russian Philately", №34, pp. 3-4.

11). Gibbons Stanley: "Postage Stamps Catalogue", 1965, part II, p. 484.

# БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ОПЭРА „ЗОРКА ВЭНЭРА"

На працягу апошняга дзесяцігодзьдзя адбываецца дваякі працэс у культурным жыцьці падсавецкай Беларусі. З аднаго боку, працэс гэты вызначаецца ўзмоцненай савецтызацыяй усіх зьяваў культурнага жыцьця і абнаглелай русыфікацыяй — моўнай, культурнай і псыхалягічнай. Інакш кажучы, праводзяцца спробы штучнага тварэньня гэтак званага агульнасавецкага народу на расейскай нацыянальнай базе. Працэс гэты ідзе зьверху — ад Камуністычнае партыі й падпарадкаванага ёй ураду БССР.

З другога боку, у мэтах нацыянальнае самаабароны й як рэакцыя на нацыянальны гэнасыд Масквы, штораз мацней заўважаецца й адваротная гэтаму працэсу зьява, што ідзе зь нізоў, ад народу й ягоных найлепшых прадстаўнікоў у розных галінах жыцьця, перш-наперш узноў-жа ў галіне культуры і мастацтва. Гэта — узмоцнены зварот да народных вытокаў і нацыянальнага характару культуры, прыкметнае ўзмацненьне беларускага нацыянальнага патрыятызму ўва ўсіх галінах духовае творчасьці.

У гэткім нацыянальным пляне была задуманая, створаная, паказаная на сцэне й прынятая грамадзкасьцяй опэра „Зорка Вэнэра" маладога кампазытара Юр'я Семянякі паводля лібрэта паэты Алеся Бачылы. Больш таго, з усіх мастацкіх твораў розных галінаў і жанраў, створаных апошнімі гадамі ў нацыянальным пляне, нацыянальны элемэнт у опэры „Зорка Вэнэра" выступіў асабліва зырка, багата і ўсяўладна, што адразу пасьля ейнае прэм'еры ў Вялікім тэатры опэры й балету 28 лістапада летась, і ў тэатральнай крытыцы, і ў водгуках грамадзтва эпітэт „нацыянальная" прыстаў да яе на стала. А рэцэнзіяў і водгукаў у друку, наагул прыхільных, высока пазытыўных і нават энтузіястычных, якімі была адзначаная й далей адзначаецца „Зорка Вэнэра", ня мела яшчэ бадай што ніводная беларуская опэра.

Галоўнай тэмай опэры — жыцьцё й творчасьць выдатнага беларускага паэты дарэвалюцыйнае пары Максіма Багдановіча. Але тэма гэтая была задуманая й ужыцьцёўленая стваральнікамі опэры й ейнымі пастаноўшчыкамі ў арганічнай сувязі з жыцьцём і доляю народу й на багатым фоне народнае творчасьці ды ў пляне разгаданьня загадкі Багдановічавага таленту. Напярэдадні прэм'еры галоўныя стваральнікі спэктаклю падзяліліся з грамадзтвам у газэце „Літаратура і Мастацтва" сваімі думкамі пра тое, як разумеюць яны задуму кампазытара й аўтара лібрэта ды якую мэту ставілі яны перад сабой, ствараючы спэктакль. Вось што сказаў пра гэта рэжысэр-пастаноўшчык опэры Сымон Штэйн: **„Хочацца ня толькі аддаць даніну захапленьня яго** (гэта значыць, Багдановічавага) **таленту, але і разгадаць загадку нараджэньня гэтага таленту. Чалавек, які воляй лёсу амаль увесь час быў адарваны ад роднай зямлі, палаў да яе такой шчырай, такой самаадданай любоўю, так разумеў яе боль, пакуты і патрэбы, так тонка адчуваў душу народу, што, узьняўшыся да вяршынь тагачаснай беларускай паэзіі, уплываў і ўплывае на ўсё яе далейшае развіцьцё... У выніку такіх пошукаў у опэры зьявіўся новы пэрсанаж — унутраны сьвет Багдановіча мы паспрабавалі раскрыць пры дапамозе хору і часткова балету, якія ствараюць гукавыя і зрокавыя вобразы пачуцьцяў паэты".**

Дадзеную рэжысэрам-пастаноўшчыкам Сымонам Штэйнам характарыстыку й задуму опэры трапна дапоўніў у тым-жа нумары „Літаратуры і Мастацтва" дырыжор спэктаклю Кірыла Ціханаў: **„Новая опэра** — заўважыў ён — **расказвае ня толькі пра ўнутраны сьвет паэты, але і пра таленавітасьць і прыгажосьць душы народу, які даў такога паэту. Праз народ і ў непарыўнай сувязі зь ім раскрываецца вобраз Багдановіча. З гэтага вынікае і адметная рыса спэктаклю — роля хору, як музычнага фактару ў „Зорцы Вэнэры".**

Як сьцьвердзілі рэцэнзіі й водгукі на пастаноўку „Зоркі Вэнэры", гэная загадка Багдановічавага таленту, выраслага сваімі вытокамі з народных нетраў і абагрэтага шчырай любасьцяй паэты да роднае зямлі й свайго народу, у опэры глыбака разгаданая моваю высокага мастацтва. Прыведзеныя словы рэжысэра-пастаноўшчыка й дырыжора опэры былі ўзятыя за аснову ўсіх пазытыўных рэцэнзіяў і водгукаў.

Але былі й рэцэнзіі, у якіх, побач з пазытыўнымі, выказваліся й ацэны крытычныя. Гэткай была першая рэцэнзія на опэру й ейную пастаноўку Т. Шчарбаковай у „Літаратуры і Мастацтве" за 8 студзеня сёлета. Падыходзячы да опэры з чыста прафесійных пазыцыяў ды ацэньваючы яе строга паводля традыцыйных крытэрыяў, тарнаваных да опэрнага жанру, Шчарбакова адзначыла гэткія, на ейную думку, пралікі й агрэхі опэры: **„Зорка Вэнэра" ня зусім адпавядае жанравым патрабаваньням традыцыйнае опэры, а мае ў сабе элемэнты кантаты або араторыі; „У „Зорцы Вэнэры" часта адчуваецца стылявая неадпаведнасьць вершаў М. Багдановіча і музыкі Ю. Семянякі"; „Інструмэнтальная партытура „Зоркі Вэнэры" ня вельмі багатая", а „аркестравая партытура пераважна дубліруе харавое двухгалосьсе, акампаніруе"; „нават у межах прапанаванага аўтарамі матэр'ялу большасьць салістаў не садзейнічала паглыбленьню тэатру ў паэтычны сьвет Багдановіча".**

Рэцэнзія Т. Шчарбаковай распачала прынцыповыя спрэчкі вакол опэры. У далейшых выказваньнях або запярэчваліся крытычныя заўвагі Шчарбаковай, як неабгрунтаваныя, або зазначалася, што некаторыя пралікі ў пастаноўцы опэры лёгка можна выправіць, што, як пацьвердзіла й сама Шчарбакова, тэатр і робіць. Галоўнае-ж дасягненьне опэры аўтары далейшых рэцэнзіяў і водгукаў знаходзілі якраз у гэным, адзначаным рэжысэрам-пастаноўшчыкам опэры, мастацкім разгаданьні загадкі Багдановіча ды ў глыбока народным і нацыянальным характары опэры.

У лютым сёлета адбылося публічнае абмеркаваньне опэры ейнымі гледачамі — працаўнікамі праектна-тэхналягічнага Інстытуту „Белмесцпрампраект". У выказваньнях не прафэсіяналаў ужо, а звычайных гледачоў гучэлі энтузіястычныя захапленьні опэрай, якіх не маглі заглушыць і некаторыя крытычныя ацэны. Ілюстрацыяй гэнага энтузіязму могуць быць словы старшага тэхніка згаданага інстытуту Галіны Гарнастай: **„Мне цяжка перадаць словамі тое хваляваньне,** — казала яна, **— зь якім я слухала опэру „Зорка Вэнэра". Я неяк пановаму зразумела духоўную спадчыну нашых продкаў, адчула хараство беларускіх народных мэлёдыяў, глыбей у сэрца запалі вершы Максіма Багдановіча, пакладзеныя на музыку Юрыем Семянякам".**

Сёлетнія свае гастролі ў Маскве Беларускі вялікі тэатр опэры й балету распачаў „Зоркай Вэнэрай", якая была прынятая гледачамі таксама прыхільна. Прывядзём словы захапленьня беларускай опэрай, сказаныя народнай артысткай СССР Раісай Стручковай і надрукаваныя ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 16 ліпеня: „З **задавальненьнем слухала музыку опэры Юрыя Семянякі „Зорка Вэнэра". Прыгожая, мэлядычная. Выдатна гучаць хоры. У іх душа народу, нацыянальны характар ..."** Маскоўскі друк, хоць і падчыркнуў некаторыя прафэсійныя пралікі опэры, ацаніў яе наагул, як мастацкае дасягненьне.

Сярод шмат якіх іншых водгукаў на опэру „Зорка Вэнэра", нельга абыйсьці міма выказваньня паэты й літаратуразнаўца Алега Лойкі, як прафэсійнага знаўцы Максіма Багдановіча й аўтара першае манаграфіі пра ягоную творчасьць. Вось словы Алега Лойкі зь ягонага водгуку ў азэце „Літаратура і Мастацтва" за 23 красавіка сёлета: **„Мне хацелася яшчэ слухаць і слухаць — заставацца ў дзівосным царстве настрою, які быў спароджаны музыкай, карагодамі і мастацкім афармленьнем спэктаклю, тым новым гучэньнем даўно вядомых мне радкоў Багдановіча, якія ў кантэксьце опэры набылі сваё новае жыцьцё, новы палёт. Аўтары „Зоркі Вэнэры" сапраўды знайшлі новыя, свае ключы, каб паказаць народныя вытокі паэзіі Максіма Багдановіча, яго глыбокую сувязь з народным паэтычным сьветасузіраньнем, сьветаадчуваньнем, з народнымі песьнямі і танцамі".**

Гэткая вось ацэна опэры, дадзеная аўтарытэтным спэцыялістым-прафэсіяналам, на нашую думку, асноўная й галоўная ў вызначэньні мастацкай і ідэйнай каштоўнасьці „Зоркі Вэнэры". Каштоўнасьць гэтая вызначаецца перш-наперш і галоўна ейнымі народнымі вытокамі й нацыянальным характарам, усім тым, што дае аснову называць „Зорку Вэнэру" нацыянальнай беларускай опэрай, а перад чым блекнуць і адыходзяць на задні плян ейныя прафэсійныя агрэхі.

Як можна меркаваць адно на аснове рэцэнзіяў і водгукаў у савецкім друку, опэра „Зорка Вэнэра" значная падзея ў беларускім тэатральна-музычным мастацтве. Гэта адзін із зыркіх праблескаў нацыянальнае існасьці гэтага мастацтва ў панурай цемры сяньняшняй паднявольнай рэчаіснасьці.

**Раман Шарупіч**

### ХРЫСЬЦІНЫ

У сыботу 28 жніўня сёлета ў Царкоўна-Грамадзкім Цэнтры ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, адбыліся хрысьціны малога Міхася — сына Сп-ва Міхася й Гэлены Каранеўскіх.

Управа й Сябры Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі складаюць свае найлепшыя пажаданьні Нованароджанаму, Бацьком і Дзядом.

**Управа Аддзелу БАЗА**

### БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ ВЫДАНЬНЯ БІБЛІІ

гэтым квітуе дальшыя дары на друк і аправу Новага Закону. Прыслалі свае дары: Сп-ва Тарас і Зінаіда Сайкі 75 дал., Д-р М. Смаршчок 25 дал., Сп. І. Храноўскі 25 дал., Сп. Аляксандра Калодка 20 дал., Сп-ва Валер'ян і Марыя Маеўскія 20 дал., — разам 165 дал. Разам із 2,983 дал. папярэдніх дароў, п765квітаваных у № 171 „Беларуса", — 3,148 дал.

Вялікі дзякуй усім ад Камітэту і ўсіх, што патрабуюць Бібліі.

На аплату за друк і аправу Новага Закону не стае яшчэ Камітэту 827 дал.

Просім памагчы іншых. Імёны дарыцеляў будуць запісаныя залатымі літарамі ў гісторыі Беларусі.

Чэкі просім прысылаць на адрыс скарбніка Камітэту:
Mr. W. Stankievich, 7 Vale Drive, Mountain Lakes, N. J. 07046.



ПАВАЛ МІСКО

# ХЛЕБ

**Павал Міско,** беларускі пісьменьнік із Случчыны, надрукаваў у ліпенскім нумары „Полымя" сёлета аповесьць „Ня ў явар, а ў камень" пра калгаснае жыцьцё на Беларусі ў розных адрэзках часу. Глыбокую сымбалічную вымову, як пачуцьцё вернасьці народным традыцыям, мае ў ваповесьці сцэна пра хлеб, а ягонае пячэньне ўзнятае да ўзвышша ўрачыстага абраду. Перадрукоўваем з гэтае аповесьці згаданы ўрывак, загаловіўшы яго — „Хлеб":

***

... Расчыніла яна ўчора зь вечара хлеб, паставіла дзяжу на чарэнь, акрыла старым паўкажушкам, пасьцілкаю і яшчэ аборкаю навязала. Каб цяплей было, хутчэй укісла рошчына, раней замясіць можна было, раней выпячы. Субота сёньня, у сыботу яшчэ можна, а ў нядзелю — грэх. Ніхто ўжо ў сяле сам хлеба не пячэ, а Тарасіха ня прызнае купленіка. Свой і толькі свой! У млыне ўжо ведаюць гэта. Тоўсты Раман-млынар не насьміхаецца, а стараецца змалоць мякчэй, а ня проста перадраць, як на вобмешку сьвіньням...

... „Ну, і яшчэ адзін, пяты ..." — Тарасіха асьцярожненька падчапіла за бохан драўлянаю качаргою, падобнаю на рыбацкі боўт, памалу пасунула хлеб да сябе, пад чалесьнікі. „Боўт" паставіла ў качарэжнік, угору пярэчынкай. Шост-тронак жоўты і бліщчыць, высьлізгаўся рукамі за шмат гадоў. Ніколі гэтым „боўтам" Тарасіха ня выгрэбвае ні попелу, ні жару — другі ёсьць на попел.

Бохан паволі ўзяла пасудным ручнікам, падзьмухала на ружавата-рудую скарынку з прысмаленымі трэшчынкамі па бакох, прытуліла краем да грудзей. І чула, як прагравае цяпло бохана глыбока, густа, нібы ўліваецца сіла.

Пакуль брала, дзьмухала, вочы ацэньвалі: „Выпечаны!"; пальцы рук далікатна абмацвалі: „Выпечаны!" І нюхнула, вядома: пах тонкі, без гарэлінкі. І яшчэ раз пацягнула носам хлебную, ні з чым не зраўнянную духмянасьць і нават вочы прыплюшчыла, нібы смакавала. Прымешваецца да хлебнага паху трошкі аернага — закідвала сушанага аеру ў печ, пасадзіўшы хлеб, і трошкі кменнага, трошкі кляновага — самая крыха, для адценьня, „букету". Бо трэба, каб свой, хлебны дух перамагаў усе. Непаўторны ён, хлебны дух, такі, што не дае забыцца на дом, на родны кут да скону. Тэрас, яе Тэрас, з-за сьвету, зь лініі Манэргейма ў Фінляндыі пісаў, што сьніў перад боем сон. Здаецца, вымаюць яны зь печы сьвежы хлеб, і папрасіўся ён у яе дастаць адзін бохан. І быццам дазволіла яна яму дастаць той бохан, а ён — шарах! — садраў верх, зьняў скарынку, як шапку. Прачнуўся, пісаў, а вочы ў сьлязах, і шчака ўся мокрая, і на шапцы намерзьлі сьлёзы.

Апошненькае пісьмо ад Тэраса. Пазьней ужо яно прыйшло — спачатку „зьвяшчэньне", што „сьмерцю храбрых", адале і пісьмо ...

Тарасіха пераварочвае бохан ніжняй скарынкай угару, акуратненька саскрэбвае астаткі ломкіх, выпетралых ад гарачыні кляновых лістоў. Выскрэбвае і маленькія, бы падзялілі ўздоўж насеньнікі ўкропу, зярняткі кмену. Яна ня любіць, каб трапляў кмен на зубы — забіваецца тады хлебны дух, церпкасьць шчыпле за язык. А вось-жа сыпле кожны раз: спачатку раскладвае на драўлянай лапаце тры кляновыя лісты, а паўзьверх — некалькі каліваў кмену.

Скрэб-скрэб, скрэб-скрэб ... Зьнізу скарынка робіцца ня гладкая, а як сьвежавырабленая аўчына. Яшчэ раз падзьмухала на бохан, палюбавалася — і паклала на лаву, у радок та тых чатырох, на чысты ручнік. І гэты, пяты бохан, як і тыя чатыры, змачыла зьверху марлечкай, і хлеб закурыўся параю ..

Загрэбла на сярэдзіну поду жар, зь ямкі, прыставіла бліжэй капусту са здорам, кашу — хай даправаюць — і засланіла печ.

Хлеб астываў, а Тарасіха прынесла зь сянец назапашных кляновых лістоў. Сабрала іх пасьля першага марозіку — жоўтых, барвовых, залацiста-рудых, падсушыла прасам. А цяпер адсырэлі, трэба зноў падсушыць, а то ўчарнеюць ...

У сенцах грукаюць дзьверы, нехта доўга лапае рукамі па хатніх дзьвярох, не намацае клямку. Тарасіха памкнулася ўжо насустрач, каб адчыніць. І тут кляцнуў сьлясак, дзьверы спад самае рукі як-бы праваліліся, і ў шчыліну пралезла Маня. Пад рукою яна трымала тры буханкі купленага хлеба.

— Во, каб трохі, то і за нос ухапіла-б цябе, — сказала Тарасіха. — Я думаю, ці не Насьця Міхалёвых шкрабаецца — хацела памагчы ўлезьці ...

— Вой, цётухна ... Гэта-ж ішла з магазіну, пачула, як у вас хлеб пахне. Удаўся хоць?

— Ня ведаю, гарачы-ж яшчэ ... Стукала ў спод, здаецца выпякся...

.... Тарасіха выключыла з разэткі прас, пачала складваць лісьце ў старое рэшата. А Маня ня спускала вачэй з круглых караваяў, яны нібы заваражвалі яе.

— Прыходзь, як астыне ... Ільлюшу скажы — і прыходзьце. Будзем каштаваць хлеб ... — сказала Тарасіха. — Хаця і сама яшчэ зайду, са старымі пагавару. Нядзеля-ж сёньня, можна і пасядзець, як людзі ...

**Павал Міско**

**Казімер Камэйша**

### БЕЛАРУСЬ

Ад цёплага павеву на сьвітаньні
Ў гаі салоўка раптам запяе.
Радзіма ў сэрцы ў нас.
Мы з хваляваньнем
Адказ нясём сыноўні за яе.

За цяплыню ў гняздзе птушыным
кожным,
За вечна гэніяльны матчын сьпеў,
За справы ўсе,
За ўсё, што маеш,
і за ўсё, што меў.

Усю яе, ад ніў і да палацаў,
Апелі мы, ды мала песень тых,
Яна сама, як дарагі матыў,
Сама сабе — і песьня і авацыі.

Яе мы белай вечна называлі,
Калі хацелі песьню прасьпяваць.
А ў ёй вясёлак колеры палалі, —
Чаму-ж яе вясёлкавай ня зваць!

**(„Беларусь", № 12, 1970)**

***

Дабрата твая, сівая пушча —
Залатая спадчына сяла.
Цень зялёны з крон тваіх
адпушчан
І разьліў лагоднага сьвятла.
Быццам абажуры, верхавіны
Па-над поўняй гойдае сьвяжак.
Разыходзяцца,
бягуць сьцяжыны,
Па сьвятле шукаючы бальшак.
Воч не запарушыць тут іголіца
Чалавеку з роднага сяла.
Пушча, ты — маўклівая сьвятліца:
Свой прамень у кожнага сьцябла.
Нас не разьяднаць нічым
з прыродай,
Ізь сьвятлом,
Радзімаю,
сялом.
Поўняй узыйдзі, маё чало,
Толькі-б сьветла ў нас было заўсёды.

**(„Маладосьць", № 8, 1970).**

**Казімер Камэйша** — нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Малыя Навікі на Стаўпеччыне. Скончыў Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у Менску. Працуе рэдактарам літаратурна-драматычных перадачаў у Беларускім радыі. У 1969 годзе выдаў першы зборнік сваіх вершаў „Восенскія позвы".

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (другая палавіна верасьня — першая палавіна кастрычніка) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Е. К. | $ 40.00 |
| 2. Інж. В. Станкевіч | 30.00 |
| 3. В. і М. М. | 20.00 |
| 4. М. Кавалевіч | 10.00 |
| 5. Д-р Я. Запруднік | 10.00 |
| 6. Д-р В. Кіпель за клішэ | 10.00 |
| 7. Я. Гуткоўскі | 6.00 |
| **Разам:** | **$ 126.00** |

**2. Сабрана Д-р А. Бразоўскім ад Беларусаў Заходняй Аўстраліі $ 55.00**

**3. Сабрана П. Трысмаковам сярод Беларусаў Паўдзённай Аўстраліі:**

| | |
|---|---|
| 1. П. Пачопка | $ 20.00 |
| 2. Д-р В. Міленцэвіч | 10.00 |
| 3. А. Садоўскі | 10.00 |
| 4. Ул. Акавіты | 2.00 |
| 5. К. Ранцэвіч | 2.00 |
| **Разам:** | **$ 44.00** |

**4. Сабрана А. Маркевічам сярод Беларусаў Канады:**

| | |
|---|---|
| 1. А. Грыцук | $ 16.00 |
| 2. А. Лабэцкі | 6.00 |
| 3. Я. Пітушка | 5.00 |
| 4. А Каранеўскі | 10.00 |
| 5. Клюб „Пагоня" за абвестку | 5.00 |
| **Разам:** | **$ 42.00** |
| **Усяго разам:** | **$ 267.00** |

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

**Чытайце, выпісвайце,**
**пашырайце газэту Беларусаў**
**у Вольным Сьвеце**
**„БЕЛАРУС"**